ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 82 (1616) | Аўторак, 17 кастрычніка 1961 года | Цана 4 кап.

НЯХАЙ ЖЫВЕ СТВОРАНАЯ ЛЕНІНЫМ СЛАЎНАЯ КАМУНІСТЫЧНАЯ ПАРТЫЯ САВЕЦКАГА САЮЗА — ВЫПРАБАВАНЫ АВАНГАРД НАРОДА, КІРУЮЧАЯ І НАКІРОЎВАЮЧАЯ СІЛА САВЕЦКАГА ГРАМАДСТВА Ў БАРАЦЬБЕ ЗА ПАБУДОВУ КАМУНІЗМА!




Пімен ПАНЧАНКА

## СЛУХАЙ, РАДЗІМА

Маці мая, Радзіма,
Шчыра слова сказаць дазволь.
Па цяжкіх ты дарогах хадзіла
Праз галечу, праз бой і боль.
Пэўна б, горкаю, невыносаю
Рэчка долі тваёй цякла,
Калі б ты найлепшых сыноў сваіх
Камуністамі не нарэкла.
Ты свой лёс даверыла ленінцам.
Слухай, маці, голас Крамля:
Дваццаць год міне —
Пераменіцца,
Запраменіцца шчасцем зямля.
Па натхненню і строгаму графіку
Маладзець, багацець будзеш ты...
Дэлегацкія біяграфіі —
Гэта твой жыццяпіс залаты.
Дык заходзь жа на з'езд і горда
Сядзь між лепшых сваіх дзяцей.
Паглядзі:
Камуністаў кагорта
Туліць будучыню да грудзей.
Каб змагла ты яе дачакацца,
Каб змагла Камунізм ты сустрэць,
Будзем самі сівець мы на працы,
А табе не дазволім старэць.

## РАПАРТЫ ПРАЦОЎНЫХ ПЕРАМОГ

28-га лютага г.г. наша газета надрукавала зварот работнікаў кінасеткі Івацэвіцкага раёна, у якім кінафікатары абавязаліся: «выканаць эксплуатацыйна-фінансавы план кінасеткі раёна па ўсіх паказчыках да дня адкрыцця XXII з'езда КПСС, абслужыць звыш плана да канца года 105 тысяч гледачоў, атрымаць дадаткова 19 тысяч рублёў прыбытку».

Старанная работа кінафікатараў дала плённыя вынікі. 10 кастрычніка работнікі кінасеткі Івацэвіцкага раёна завяршылі гадавы план кінаабслугоўвання насельніцтва.

Да канца года кінафікатары раёна абавязаліся дадаткова абслужыць 140 тысяч гледачоў і даць звыш плана 25 тысяч рублёў прыбытку.

Радасную тэлеграму атрымала Міністэрства культуры БССР і ад Акцябрскага раённага аддзела культуры, работнікі кінасеткі якога таксама 10 кастрычніка выканалі гадавы план абслугоўвання гледача.

# ЗАКЛІКІ ЦК КПСС

## ДА 44-Й ГАДАВІНЫ ВЯЛІКАЙ КАСТРЫЧНІЦКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭВАЛЮЦЫІ

1. Няхай жыве 44-я гадавіна Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі!

2. Слава Вялікаму Кастрычніку, які адкрыў новую эру ў гісторыі чалавецтва — эру крушэння капіталізму і зацвярджэння камунізма!

3. Няхай жыве XXII з'езд Камуністычнай партыі Савецкага Саюза — з'езд будаўнікоў камуністычнага грамадства!

4. Працоўныя Савецкага Саюза! Усе сілы на ажыццяўленне вялікай Праграмы будаўніцтва камуністычнага грамадства ў нашай краіне!

Уперад, да перамогі камунізма!

5. Няхай жыве марксізм-ленінізм — пераможны сцяг Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, магутная ідэйная зброя працоўных усяго свету!

6. Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

7. Палымянае прывітанне братнім камуністычным і рабочым партыям — баявому авангарду рабочага класа і працоўных усіх краін!

Няхай жыве непарушнае адзінства і згуртаванасць вялікай арміі камуністаў усяго свету!

8. Вышэй сцяг пралетарскага інтэрнацыяналізму!

9. Няхай мацнее адзінства дзеянняў, баявая салідарнасць рабочага класа і працоўных усіх краін у барацьбе за мір, нацыянальную незалежнасць, дэмакратыю і сацыялізм!

10. Народы свету! Змагайцеся за поўную і канчатковую ліквідацыю ганебнай сістэмы каланіяльнага рабства! Дабівайцеся неадкладнага і безумоўнага вызвалення ўсіх каланіяльных краін і народаў!

11. Народы ўсіх краін! Вы—рашаючая сіла ў барацьбе за мір! Будзьце пільнымі, выкрывайце імперыялістычных падпальшчыкаў вайны — ворагаў чалавецтва! Змагайцеся за ўсеагульнае і поўнае раззбраенне!

12. Народы ўсіх краін! Рашуча выступайце супраць ператварэння Заходняй Германіі ў галоўны ачаг ваеннай небяспекі ў Еўропе, супраць аснашчэння нямецкіх рэваншыстаў ракетна-ядзернай зброяй! Патрабуйце хутчэйшага заключэння германскага мірнага дагавору і ператварэння Заходняга Берліна ў вольны горад!

13. Гарачае прывітанне мужным барацьбітам за свабоду і шчасце сваіх народаў, за мір, дэмакратыю і сацыялізм, якія пакутуюць у турмах капіталістычных краін! Свабоду ахвярам рэакцыі, вязням капіталу!

14. Няхай жыве сусветная сацыялістычная сістэма — галоўнае дзецішча міжнароднага рабочага класа, магутная садружнасць свабодных, суверэнных народаў, якія ідуць па шляху сацыялізма і камунізма!

15. Братняе прывітанне працоўным Кітайскай Народнай Рэспублікі, якія будуюць сацыялізм! Няхай жыве вечная, непарушная дружба і супрацоўніцтва паміж вялікімі народамі Савецкага Саюза і Кітая!

16. Братняе прывітанне працоўным Народнай Рэспублікі Албаніі, якія будуюць сацыялізм! Няхай жыве вечная, непарушная дружба і супрацоўніцтва паміж савецкім і албанскім народамі!

17. Братняе прывітанне працоўным Народнай Рэспублікі Балгарыі, якія будуюць сацыялізм! Няхай жыве вечная, непарушная дружба і супрацоўніцтва паміж савецкім і балгарскім народамі!

18. Братняе прывітанне працоўным Венгерскай Народнай Рэспублікі, якія будуюць сацыялізм! Няхай жыве вечная, непарушная дружба і супрацоўніцтва паміж савецкім і венгерскім народамі!

19. Братняе прывітанне працоўным Дэмакратычнай Рэспублікі В'етнам, якія будуюць сацыялізм, змагаюцца за мірнае аб'яднанне сваёй краіны на дэмакратычных асновах! Няхай жыве вечная, непарушная дружба і супрацоўніцтва паміж савецкім і в'етнамскім народамі!

20. Братняе прывітанне працоўным Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі, якія будуюць сацыялізм! Няхай мацнее дружба і супрацоўніцтва паміж савецкім і германскім народамі!

Няхай жыве Германская Дэмакратычная Рэспубліка!

21. Братняе прывітанне працоўным Карэйскай Народна-Дэмакратычнай Рэспублікі, якія будуюць сацыялізм, змагаюцца за мірнае аб'яднанне сваёй краіны на дэмакратычных асновах! Няхай жыве вечная, непарушная дружба і супрацоўніцтва паміж савецкім і карэйскім народамі!

22. Братняе прывітанне працоўным Мангольскай Народнай Рэспублікі, якія будуюць сацыялізм! Няхай жыве вечная, непарушная дружба і супрацоўніцтва паміж савецкім і мангольскім народамі!

23. Братняе прывітанне працоўным Польскай Народнай Рэспублікі, якія будуюць сацыялізм! Няхай жыве вечная, непарушная дружба і супрацоўніцтва паміж савецкім і польскім народамі!

24. Братняе прывітанне працоўным Румынскай Народнай Рэспублікі, якія будуюць сацыялізм! Няхай жыве вечная, непарушная дружба і супрацоўніцтва паміж савецкім і румынскім народамі!

25. Братняе прывітанне працоўным Чэхаславацкай Сацыялістычнай Рэспублікі, якія будуюць сацыялізм! Няхай жыве вечная, непарушная дружба і супрацоўніцтва паміж савецкім і чэхаславацкім народамі!

26. Братняе прывітанне працоўным Федэратыўнай Народнай Рэспублікі Югаславіі! Няхай развіваецца і мацнее дружба і супрацоўніцтва савецкага і югаслаўскага народаў у інтарэсах барацьбы за мір і сацыялізм!

27. Гарачае прывітанне вялікаму індыйскаму народу! Няхай развіваецца і мацнее дружба і супрацоўніцтва паміж народамі Савецкага Саюза і Індыі!

28. Гарачае прывітанне вялікаму інданезійскаму народу! Няхай развіваецца і мацнее дружба і супрацоўніцтва паміж народамі Савецкага Саюза і Інданезіі!

29. Гарачае прывітанне народу Лаоса, які змагаецца за мір, нейтралітэт і незалежнасць сваёй краіны!

30. Гарачае прывітанне народам Бірмы, Цэйлона, Камбоджы, якія змагаюцца за мір і ўмацаванне нацыянальнай незалежнасці сваіх краін!

31. Гарачае прывітанне афганскаму народу! Няхай мацнеюць і развіваюцца сяброўскія, добрасуседскія адносіны паміж Савецкім Саюзам і Афганістанам!

32. Гарачае прывітанне народам арабскіх краін, якія змагаюцца супраць імперыялістычных падкопаў, за поўную ліквідацыю каланіялізму, за ўмацаванне незалежнасці і суверэнітэту сваіх краін, за развіццё нацыянальнай эканомікі і культуры!

33. Гарачае прывітанне алжырскаму народу, які самааддана змагаецца за сваю свабоду і нацыянальную незалежнасць!

34. Гарачае прывітанне народам свабодных афрыканскіх дзяржаў, якія парвалі ланцугі каланіялізму і самааддана змагаюцца за ўмацаванне сваёй незалежнасці!

35. Гарачае прывітанне кангалезскаму народу, які змагаецца за незалежнасць і адзінства кангалезскай дзяржавы, супраць падкопаў каланізатараў!

36. Гарачае прывітанне гераічнаму народу Кубы, які будуе новае жыццё, самааддана адстайвае сваю свабоду і незалежнасць!

Няхай развіваецца і мацнее дружба і супрацоўніцтва паміж народамі Савецкага Саюза і Кубы!

37. Гарачае прывітанне народам Лацінскай Амерыкі, якія змагаюцца супраць імперыялізму, за ўмацаванне незалежнасці і суверэнітэту сваіх краін, за мір і супрацоўніцтва паміж народамі!

38. Няхай жыве дружба і супрацоўніцтва народаў Англіі, Злучаных Штатаў Амерыкі, Францыі і Савецкага Саюза ў інтарэсах трывалага міру ва ўсім свеце!

39. Гарачае прывітанне працоўным і ўсім прагрэсіўным сілам Федэратыўнай Рэспублікі Германіі, якія змагаюцца супраць мілітарызму і адраджэння фашызму! Няхай мацнее дружба паміж савецкім і германскім народамі!

40. Няхай развіваюцца і мацнеюць дружалюбныя адносіны паміж народамі Савецкага Саюза і Італіі!

41. Няхай жыве дружба і супрацоўніцтва паміж народамі Савецкага Саюза і Фінляндскай Рэспублікі!

42. Няхай развіваюцца і мацнеюць дружалюбныя адносіны паміж савецкім народам і народамі Швецыі, Нарвегіі, Даніі, Ісландыі!

43. Няхай жыве дружба і супрацоўніцтва паміж народамі Савецкага Саюза і Аўстрыі!

44. Гарачае прывітанне японскаму народу, які змагаецца супраць амерыканскіх ваенных баз на сваёй тэрыторыі, за незалежнае і дэмакратычнае развіццё краіны, за мір і дружбу з усімі суседнімі дзяржавамі!

45. Няхай жыве ленінская міралюбівая знешняя палітыка Савецкага Саюза — палітыка мірнага суіснавання дзяржаў з розным грамадскім ладам, умацавання міру і бяспекі народаў, павагі іх свабоды і незалежнасці, развіцця шырокіх эканамічных і культурных сувязей!

46. Няхай жывуць авеяныя славай перамог доблесныя Савецкія Узброеныя Сілы, якія пільна стаяць на варце міру, дзяржаўных інтарэсаў і бяспекі нашай Радзімы!

47. Савецкія воіны! Дабівайцеся новых поспехаў у баявой і палітычнай падрыхтоўцы, настойліва аваладвайце сучаснай тэхнікай і зброяй, бездакорна захоўвайце воінскую дысцыпліну, усямерна павышайце сваю баявую гатоўнасць!

48. Няхай жыве і мацнее непарушны саюз рабочага класа і калгаснага сялянства — рашаючая сіла будаўніцтва камунізма ў СССР!

49. Няхай жыве і мацнее непарушнае адзінства і братняя дружба народаў СССР — крыніца магутнасці і працвітання нашай многанацыянальнай сацыялістычнай дзяржавы!

50. Працоўныя Савецкага Саюза! Пабудова камунізма — справа рук, энергіі і розуму народа. Усе сілы на стварэнне матэрыяльна-тэхнічнай базы камунізма!

51. Працаўнікі горада і вёскі! Упорнай работай у найкарацейшы гістарычны тэрмін даб'ёмся перамогі ў мірным эканамічным спаборніцтве з капіталізмам! Дагонім і пераўзыйдзем Злучаныя Штаты Амерыкі па вытворчасці прадукцыі на душу насельніцтва!

52. Працоўныя Савецкага Саюза! Шырэй размах усенароднага сацыялістычнага спаборніцтва за выкананне і перавыкананне сяміГадовага плана!

53. Слава калектывам і ударнікам камуністычнай працы, перадавікам і наватарам вытворчасці, якія ідуць у першых радах будаўнікоў камунізма! Вопыт лепшых зробім здабыткам усіх працоўных!

54. Працоўныя Савецкага Саюза! Усямерна ўмацоўвайце сацыялістычную ўласнасць — аснову далейшага росту магутнасці нашай краіны і дасягнення самага высокага ў свеце ўзроўню жыцця народа!

55. Працоўныя Савецкага Саюза! Кожны савецкі чалавек сваёй працай набліжае перамогу камунізма! Змагайцеся за няўхільнае ажыццяўленне прынцыпу будаўнікоў камунізма: хто не працуе, той не есць!

56. Работнікі прамысловасці, будаўніцтва і транспарту! Настойліва павышайце прадукцыйнасць працы! Ажыццяўляйце комплексную механізацыю і аўтаматызацыю, смялей укараняйце ў вытворчасць дасягненні навукі, тэхнікі і перадавога вопыту!

57. Работнікі прамысловасці, сельскай гаспадаркі, будаўніцтва і транспарту! Змагайцеся за найбольш разумнае і эканомнае выкарыстанне капітальных укладанняў! Не дапускайце распылення сродкаў і марнатраўства! Сканцэнтроўвайце рэсурсы на важнейшых пускавых будоўлях!

(Заканчэнне на 2-й стар.)

# СВЯТЛО КАМУНІЗМА

XXII З'ЕЗД КПСС сёння пачынае сваю работу.

У Маскве, вялікай сталіцы вялікай краіны, сабраліся абраннікі магутнай партыі камуністаў. Дэлегаты з'езда — гэта і пасланцы народа, бо Камуністычная партыя — выказніца інтарэсаў народа, яго авангард, яго розум. Яна даказала гэта ўсёй сваёй дзейнасцю. Найвышэйшы вынік гэтай дзейнасці — пабудова сацыялізма ў нашай краіне. Сёння Савецкі Саюз — перадавая дзяржава з магутнай прамысловасцю і калектыўнай сельскай гаспадаркай. Сацыялізм вырашыў вялікую сацыяльную праблему — ліквідацыю эксплуататарскіх класаў і прычын, якія параджаюць эксплуатацыю чалавека чалавекам.

Сацыялізм вывеў працоўныя масы з духоўнай цемры, далучыў іх да багаццяў культуры, накопленых чалавецтвам. Краіна, дзе да рэвалюцыі большасць насельніцтва была непісьменнай, зрабіла гіганцкі ўзлёт да вяршынь навукі і культуры. Адно з найярчэйшых сведчанняў гэтага ўзлёту — першы ў свеце трыумфальны палёт савецкага чалавека на касмічным караблі вакол зямнога шара.

Сацыялізм забяспечыў палітычнае раўнапраўе нацый, ліквідаваў атрыманую ў спадчыну ад старога ладу іх эканамічную і культурную няроўнасць, сцэментаваў вялікую садружнасць свабодных нацый і народнасцей у адзінай дзяржаве.

Нашы грандыёзныя дасягненні ў развіцці эканомікі і культуры адкрываюць перспектыву ў яшчэ больш светлую будучыню: непасрэднай практычнай задачай савецкага народа стала пабудова камуністычнага грамадства. XXII з'езд партыі абмяркуе і зацвердзіць новую Праграму КПСС — праграму камунізма.

Праект гэтай Праграмы партыя вынесла перад з'ездам на ўсенароднае абмеркаванне.

Як адзначыў Пленум ЦК КПСС, які адбыўся 14 кастрычніка г.г., праект Праграмы, у абмеркаванні якога прыняло ўдзел больш чым 9 мільёнаў членаў і кандыдатаў партыі, а ўсяго звыш 82 мільёнаў працоўных, знайшоў поўную, гарачую падтрымку ўсёй партыі, усяго савецкага народа.

Гэты вялікі дакумент нашай эпохі знайшоў гарачы водгук ва ўсім свеце, усё прагрэсіўнае чалавецтва ўбачыла ў ім ўвасабленне самых запаветных мар многіх пакаленняў людзей.

З глыбокай навуковай абгрунтаванасцю новая Праграма вызначае галоўныя задачы і асноўныя этапы камуністычнага будаўніцтва ў нашай краіне. У бліжэйшае дзесяцігоддзе (1961—1970 гады) Савецкі Саюз перавысіць па вытворчасці прадукцыі на душу насельніцтва найбольш магутную і багатую краіну капіталізму — ЗША, усім савецкім людзям будзе забяспечан матэрыяльны дастатак, у асноўным будуць задаволены іх патрэбнасці ў добраўпарадкаваным жыллі. СССР стане краінай самага кароткага рабочага дня, знікне цяжкая фізічная праца. У другім дзесяцігоддзі (1971—1980 гады) будзе створана матэрыяльна-тэхнічная база камунізма, для ўсяго насельніцтва забяспечана багацце матэрыяльных і культурных даброт. Савецкае грамадства непасрэдна падыйдзе да ажыццяўлення прынцыпу размеркавання па патрэбнасцях, адбудзецца паступовы пераход да адзінай агульнанароднай уласнасці.

У гістарычна кароткі тэрмін савецкія людзі, будаўнікі новага свету, здзейсняць велічную камуністычную праграму. Цяперашняе пакаленне савецкіх людзей будзе жыць пры камунізме! — абвяшчае партыя.

Натхняючыя ідэі камунізма ўзнімаюць савецкіх людзей на працоўны гераізм. Усенароднае абмеркаванне праекта Праграмы КПСС і падрыхтоўка да XXII з'езда партыі суправаджалася незвычайным патрыятычным уздымам. Рабочыя, працаўнікі вёскі, інтэлігенцыя, спаборнічаючы за дастойную сустрэчу з'езда, прысвячалі яму свае працоўныя падарункі. З выдатнымі дасягненнямі сустрэў наш народ XXII з'езд роднай партыі.

Кожны наш дзень багаты подзвігамі ў імя камунізма. Кожны наш дзень нараджае новых і новых герояў працы. У гэтым выражаецца высокая свядомасць савецкага народа яго адданасць справе камуністычнага будаўніцтва. Бо камунізм будуецца для людзей, ён нясе багацце і радаснае жыццё ўсім, і яго перамога залежыць ад людзей. Кожны савецкі чалавек сваёй працай набліжае перамогу камунізма.

У гэтую ўсенародную працу ўносяць свой дастойны ўклад і работнікі культуры, дзеячы літаратуры і мастацтва. Роля і значэнне іх дзейнасці на сучасным этапе развіцця нашага грамадства асабліва ўзрастаюць. Партыя ставіць задачу — стварыць культуру камунізма — новую, вышэйшую ступень у культурным развіцці чалавецтва. Культура камунізма ўвасобіць у сабе ўсю мнагастайнасць і багацце духоўнага жыцця грамадства, высокую ідэйнасць і гуманізм новага свету.

Ва ўмовах пераходу да камунізма, — гаворыцца ў праекце Праграмы КПСС, — творчая дзейнасць ва ўсіх галінах культуры становіцца асабліва плённай і даступнай для ўсіх членаў грамадства. Савецкая літаратура, музыка, жывапіс, кінематаграфія, тэатр, усе галіны мастацтва дасягнуць новых вышынь у развіцці ідэйнага зместу і мастацкага майстэрства. Атрымаюць шырокае распаўсюджанне народныя тэатры, масавая самадзейнасць, тэхнічнае вынаходніцтва і іншыя формы народнай творчасці.

Культурнае развіццё ў перыяд разгорнутага будаўніцтва камуністычнага грамадства з'явіцца завяршаючым этапам вялікай культурнай рэвалюцыі. Будуць створаны ўсе неабходныя ідэалагічныя і культурныя ўмовы для перамогі камунізма.

Веліч гэтых задач натхняе і кліча работнікаў літаратуры і мастацтва да новых творчых здзяйсненняў. Беларускія пісьменнікі, мастакі, кампазітары, дзеячы тэатра і кінамастацтва будуць самаадцана працаваць над ажыццяўленнем гэтых задач. Вітаючы разам з усім савецкім народам адкрыццё XXII з'езда КПСС, творчыя работнікі Беларусі заяўляюць аб сваёй адданасці камунізму, аб сваёй гарачай веры ў яго вялікія ідэалы, у яго пераможнае шэсце.

Камунізму належыць будучыня. Сёння ўжо трэцяя частка чалавецтва будуе новае жыццё пад сцягам навуковага камунізма. Свет сацыялізма расшыраецца, свет капіталізму звужваецца.

Вялікая прыцягальная сіла ідэй камунізма ўзнімае мільёны і мільёны простых людзей свету. «Камунізм, — падкрэсліваецца ў праекце Праграмы КПСС, — выконвае гістарычную місію вызвалення ўсіх людзей ад сацыяльнай няроўнасці, ад усіх форм прыгнечання і эксплуатацыі, ад жахаў вайны і ўсталёўвае на зямлі Мір, Працу, Свабоду, Роўнасць і Шчасце ўсіх народаў».

Не шляхам вайны з іншымі краінамі, а прыкладам больш дасканалай арганізацыі грамадства, росквітам прадукцыйных сіл, стварэннем усіх умоў для шчасця і дабрабыту чалавека ідэі камунізма заваёўваюць розумы і сэрцы народных мас.

Прыклад савецкага народа, першаадкрывальніка новага свету, з'яўляецца нягаснучым маяком, чыё яркае святло бачна над усёй планетай і з кожным годам разгараецца ўсё больш і больш.



МАСКВА. Красная плошча.

Фота Ул. КРУКА.

